Жыве Беларусь!



# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№227 (740) 20—22 лістапада 1993 г. Субота—Панядзелак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 510223 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.

## ФАКС

### Вкратце

**С 25 по 27 ноября в Минске будет проходить экономический форум с участием международных финансовых организаций, инвестиционных компаний из государств СНГ, Восточной и Западной Европы, а также представителей Международного валютного фонда, Всемирного банка.**

Тема форума — иностранные инвестиции в новом суверенном государстве.

❑

**В Управлении внешних сношений Министерства обороны России открылся третий раунд российско-белорусских переговоров о системах предупреждения о ракетном нападении.**

По мнению военных России и Беларуси, необходимость сохранения, развития и совершенствования подобных систем очевидна.

❑

**Верховный Совет Украины ратифицировал договор о сокращении наступательных вооружений (СНВ-1).**

За принятие такого решения проголосовали 254 депутата, против — 9.

❑

**В Армении крайне осложнилась финансовая ситуация накануне введения национальной валюты — драма.**

Как ожидается, находящиеся в обращении в республике рублевые купюры 1961—1992 гг. выпуска начнут обменивать на драм с понедельника, 22 ноября.

❑

**Посольство России в Эстонии распространило документ, в котором содержится призыв ко всем гражданам воздерживаться от услуг частных фирм при оформлении документов для выезда в Россию.**

В обращении отмечается также, что в этом случае велик риск получить фиктивные документы, не имеющие юридической силы.

❑

**Ситуация в западной Грузии стабилизируется.**

Как сообщили в пресс-центре МВД Грузии, подразделения военизированной организации "Мхедриони" (руководитель Джаба Иоселиани) покинули бывший оплот сторонников экс-президента Гамсахурдиа город Зугдиди.

❑

**Национальный банк Казахстана объявил курс казахстанской национальной валюты теньге по отношению к иностранным валютам.**

Так, 1 немецкая марка равна 2,78 теньге, 1 доллар США — 4,74, 1000 российских рублей — 4 теньге.

❑

**3 человека погибли и 8 получили ранения в результате аварии, происшедшей в Горисском районе Армении во время движения международного автобуса, следовавшего по маршруту Капан—Ереван.**

❑

**В Барановичи приехала группа врачей и служителей культа из Германии — представители Христианской церкви адвентистов Седьмого дня.**

В плане визита — оказание помощи в строительстве храма и медицинского центра.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### До "Полоцка" минчанам будет рукой подать?

**Как стало известно, топонимическая комиссия при Минском городском исполнительном комитете предложила переименовать один из самых престижных кинотеатров белорусской столицы — "Октябрь".**

Предполагается дать ему имя "Полоцк", что, впрочем, оправдывается названиями проспекта и улицы Франциска Скорины, пролегающих рядом, а также планами установить неподалеку памятник белорусскому первопечатнику, выходцу с Полотчины. Однако это предложение еще должен утвердить Мингорисполком.

**Алесь КНЯЗЮК.**

### Спорт-экспресс

Минчанка Наталья Зверева на турнире "Вирджиния слимэ" с призовым фондом 3 миллиона 500 тысяч долларов, который проходит в Нью-Йорке, проиграла в первом круге сильнейшей теперь теннисистке планеты Штеффи Граф из Германии со счетом 2:6, 4:6.

❑

В Тилбурге в первом же матче 1/16 розыгрыша крупного международного шахматного турнира минчанин Борис Гельфанд проиграл москвичу Алексею Дрееву и выбыл из дальнейшей борьбы.

❑

Хоккеист Александр Могильный, выступающий в первенстве НХЛ, подписал с клубом "Буффало" четырехлетний контракт, по условиям которого будет получать 2,7 миллиона долларов в год. К тому же за каждую заброшенную шайбу ему будут платить 8 тысяч долларов.

### Будет время "остудить пыл"

**Спустя почти 2 года после возбуждения уголовного дела об убийстве 18-летнего витебчанина, студента мединститута А.Баранова, приговор по этому делу вынес городской суд города Орши.**

За действия, квалифицированные судом как умышленное преступление, совершенное должностными лицами, к различным срокам лишения свободы приговорены сотрудники спецназа В.Багрец, К.Лускин, В.Цариков.

**Николай ВИКОЛЬСКИЙ.**

### Лучший хоккеист Беларуси — вне игры!

**После приятной сенсации в отечественном хоккее — имею в виду выход "Тивали" в финал Кубка Европы — нас неожиданно настигла сенсация совсем неприятная.**

В положении "вне игры" оказался капитан "Тивали" и сборной Беларуси, лучший хоккеист Беларуси 1992 года, наш, безусловно, лучший нападающий и любимец публики Эдуард Занковец — он отчислен из команды с формулировкой "за нарушение условий контракта". Отчислен после отлично проведенного командой турнира в Финляндии, в котором забросил последнюю решающую шайбу. Разные стороны, затронутые в этом конфликте, отстаивают свои версии происшествия. Сам Эдуард говорит, что как капитан отстаивал интересы команды в вопросе оплаты труда. Складывается впечатление, что все закончится "хэппи эндом" и Занковец снова станет в ряды "Тивали".

**Евгений СОБОЛЕВСКИЙ.**

### Не морозьте пинчан!

**Катастрофическое положение с отоплением жилья сложилось в Пинске.**

Городское начальство даже вынуждено было в выступлении по радиосети призвать пинчан к экономии газа — в частности не использовать газовые плиты для обогрева квартир.

**Дмитрий ЭПШТЕЙН.**

### Валокордин из... казарм

**На территории бывшей воинской части российского подчинения в Мышенке Петриковского района создается предприятие по производству медпрепаратов и лекарств — валокордина, корвалола и т.д.**

На перепроектирование воинских казарм под новое производство выделяется 450 миллионов рублей. Все работы по созданию нового предприятия взяло на себя объединение "Белагрофарминдустрия".

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Полпалки магазина, пожалуйста!

**В Бресте прошел аукцион по продаже объектов городской коммунальной собственности.**

Лишь за два объекта — магазины "Кооператор" (150 миллионов рублей) и спортивного трикотажа (120 миллионов рублей) были выручены средства, сопоставимые с итогами первого широко разрекламированного аукциона. Право аренды еще трех магазинов было реализовано за 25—33 миллиона рублей за каждый, а еще три объекта вообще были сняты с торгов по причине отсутствия серьезных покупателей.

**Василий ВИКТОРОВИЧ.**

### Бензин из бензовоза?

**Как сообщил начальник лицензионного отдела Минского горисполкома Владимир Довнар, исполком утвердил новый порядок реализации горюче-смазочных материалов.**

Теперь в отведенном для этого месте любая фирма может торговать бензином, дизтопливом из своих бензовозов или бензоколонок. Разрешение на такую торговлю уже получили 37 фирм и частных предприятий столицы. Но, правда, не все смогли приступить к деятельности, поскольку необходимо обязательное обучение в Госпроматомнадзоре.

**Анатолий РОМАНОВИЧ.**

### По дороге на работу...

**Отправившись рано утром на заседание коллегии областного УВД, начальник Бобруйского районного отдела внутренних дел Василий Рудуман на одной из улиц заметил белую иномарку с сидящими в ней двумя молодыми людьми.**

Их приметы совпадали с фотороботами преступников, находящихся в розыске. Будучи в служебной машине, подполковник милиции решил преследовать подозреваемых и одновременно вызвал по рации подмогу.

В результате совместных действий В.Рудумана и подоспевших сотрудников Первомайского РОВД задержаны трое жителей Грузии, у которых изъяты холодное и огнестрельное оружие, а также крупная сумма денег.

### Степан Шавров живет... в музее

**В своеобразный музей превратился жилой дом знаменитого оршанского резчика по дереву Степана Шаврова.**

По решению и на средства горисполкома здесь открылся "Дом ремесел", который является одновременно и музеем мастера-самородка, и его творческой мастерской, и школой, где он будет учить своему искусству талантливую детвору.

**Степан СТАРОЖИЛ.**

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Ці стане мінскі "зайчык" маскоўскаму рублю братам?

**Мікалай ГАЛКО**

Здаецца, што наш Вярхоўны Савет, не жадаючы таго, крыху заблытаў сваіх выбаршчыкаў неакрэсленасцю лёсу добра вядомага ўсім фінансавага звярка — "зайчыка". Вечарам у чацвер пасля звышактыўнага абмену аргументамі і контраргументамі дэпутаты ратыфікавалі пагадненне пра аб'яднанне грашовых сістэм Расіі і Беларусі. І самыя энергічныя грамадзяне пачалі рабіць патрэбныя і непатрэбныя пакупкі — абы пазбавіцца ад грошай, аб хуткім пахаванні якіх абвешчана.

Але не ўсё так проста ў грашовым царстве. Не ўсё так проста і з аб'яднаннем, тым больш што сцэнарыі такіх падзей пішуцца не ў Мінску.

Чарговы раунд палітычнай драмы пачаўся на ўчарашнім пасяджэнні. Першае, што зрабілі дэпутаты, выслухаўшы паведамленне старшыні рэдакцыйнай камісіі Вячаслава Кузняцова, каменя на камені не пакінулі ад прапанаванага праекта пастановы, якая б лагічна завяршыла шматдзённыя дэбаты па крызіснай сацыяльна-палітычнай сітуацыі. Дарэчы, Кузняцоў і сам не ўтойваў таго, што праект сыры, што камісія працавала ў жорсткіх рамках недахопу часу, што патрэбна было ў адных і тых жа параграфах спалучыць неспалучаемае.

Леанід Сечка адзначыў, што большасць пунктаў пастановы, пры ўмовах яе прыняцця, немагчыма пракантраляваць, яна стракаціць выразамі накшталт "актывізаваць дзейнасць", "прыняць неадкладныя меры" і г.д.

Генадзь Карпенка адмоўна ацаніў змест праекта, які зроблены з прэтэнзіямі на праграму дзейнасці Саўміна, што не да твару заканадаўчаму органу.

З пазіцыі жыццёвай філасофіі Уладзімір Гаркун хацеў пераканаць калег, што ніводная пастанова, якой бы добрай яна ні здавалася, не дасць паліва, электраэнергіі, грошай.

Зала аднадушна не ўспрыняла праект. Характэрна, што члены рэдакцыйнай камісіі і не абаранялі праект, відаць, і самі адчувалі яго недасканаласць.

Выявіўся і другі падыход, выказаны дэпутатам Аляксандрам Лукашовым. "Для чаго пацець над шматслоўнай паперай? Патрэбна ацаніць дзейнасць Шушкевіча, Кебіча, Багданкевіча (станоўча альбо адмоўна) і вызначыць канцэптуальны напрамак ураду і банку".

Больш жорстка сфармуляваў свой погляд Аляксандр Лукашэнка: унесці ў парадак дня пытанні аб адкліканні Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча і аб вызваленні ад займаемай пасады прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча.

Пачалося галасаванне. Ніводзін з праектаў не быў прыняты за аснову.

Стварыўся тупік.

Канешне, многія дэпутаты радаваліся такім абставінам, падкрэслівалі, што ў камісіі працавалі лепшыя сілы саўмінаўскай каманды — адсюль такі бляклы ўзровень дакумента. Што ж, кожны мае права на суб'ектыўны погляд, але чамусьці рабілася сумна. Зноў адбылася безвыніковая палітычная разборка, і хацелася пагадзіцца з дэпутатам Альфонсам Цішкевічам, які з месца неяк своеасабліва ўсхвалявана адзначыў, што Вярхоўны Савет за два тыдні пасяджэнняў не палепшыў, а пагоршыў сітуацыю і ён, як дэпутат, яшчэ ні разу не чуў такіх рэзкіх негатыўных водгукаў аб рабоце сесіі. Цішкевічу таксама ўдалося са шчымлівым сумам сказаць і аб валюце. На яго погляд, без уласнай валюты няма дзяржавы, толькі пытанне гэта вельмі далікатнае і абмяркоўваць яго варта пасля глыбокіх кансультацый за зачыненымі дзвярыма, бо працэс стварэння грошай — зусім не простая рэч.

Праблема — абвяшчаць альбо не абвяшчаць беларускі рубель адзіным плацёжным сродкам на Беларусі — так і засталася нявырашанай. У фінансавай сферы шмат сваіх спецыфічных нюансаў: нават для аб'яднання грошай дзвюх дзяржаў трэба іх стварыць таму, хто іх не мае, каб было што з чым аб'ядноўваць.

Прычыну няўдачы Віктар Ганчар убачыў у тым, што аўтары праекта пайшлі не па тым шляху, іх прывабіла магчымасць вызначыць пункты аператыўна-распарадчай дзейнасці, а не патрэбнасць усталявання валюты, вызначэнне памераў крэдытнай эмісіі і г.д. Трэба спыніць гульні, бо адказваць усё роўна давядзецца.

Зноў усплыло спадзяванне на 10 дзён як на нейкі чароўны тэрмін: быццам бы за гэты тэрмін з'явіцца нешта прынцыпова новае, усемагутнае, выратавальнае — і тады галасаванне будзе выніковым. Не трэба думаць, што адбудзецца нешта эпахальнае — гэта ўсяго прамежкавае рашэнне аб часовай валюце. А там удалечыні свеціць цьмяна, неакрэслена расійскі рубель. Калі, якім чынам ён з'явіцца ў нашых кішэнях, невядома.

Генадзь Карпенка настойліва рэкамендаваў Станіславу Шушкевічу і Вячаславу Кебічу ехаць у Маскву, каб мець яснасць...

У канцы пасяджэння дэпутаты прынялі Закон аб ахове правоў дзіцяці і прыступілі да абмеркавання законапраекта аб правах спажыўцоў.

У аўторак сесія прадоўжыць работу.

### Аб індэксе спажывецкіх цэн

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу паведамляе, што ў кастрычніку 1993 года ў параўнанні з вераснем 1993 года індэкс цэн на харчовыя і нехарчовыя тавары і паслугі, уключаныя ў "спажывецкую карзіну", склаў 140 працэнтаў.

У кастрычніку 1993 года ў параўнанні са снежнем 1992 года кошт уключаных у мінімальную "спажывецкую карзіну" тавараў і паслуг узрос у 12,1 раза.

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

### Каментарый да паведамлення Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь аб індэксе спажывецкіх цэн за кастрычнік 1993 г.

У сувязі з апублікаваннем індэкса спажывецкіх цэн за кастрычнік 1993 г. Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва растлумачвае.

У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб індэксацыі даходаў насельніцтва з улікам інфляцыі" і на падставе пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 кастрычніка 1993 г. нумар 724 "Аб мерах па сацыяльнай абароне насельніцтва" індэксацыя грашовых даходаў за лістапад г.г., якія атрымліваюцца з бюджэтных крыніц, ажыццёўлена ў выглядзе аднаразовага перагляду памераў аплаты працы, сацыяльных пенсій, дапамог, стыпендый, грашовага забеспячэння.

**Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь.**



*Нам стала вядома*

### Генадзь Карпенка пакуль што рашэння не прыняў

**Карэспандэнт Белінфарма сустрэўся з Генадзем Карпенкам, якому, як паведамлялася, паступіла прапанова заняць пасаду віцэ-прэм'ера ў цяперашнім урадзе і курыраваць пытанні эканомікі.**

"Я яшчэ не вырашыў — даваць згоду ці не, — адказаў народны дэпутат. — Стрымліваюць дзве прычыны. Па-першае, я хачу пачуць канкрэтныя прапановы аб структурных і персанальных змяненнях ва ўрадзе, якія, як мяркую, прагучаць пры прыняцці пастановы па дакладах лідэраў нашай дзяржавы. Па-другое, у мяне пакуль што не было грунтоўнай размовы з кіраўніком урада. Мяне ён на такую гутарку не запрашаў. А бегаць да яго са спісамі новых міністэрстваў і міністраў, як гэта робяць некаторыя дэпутаты, я не буду".

*21 лістапада — Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці*

### Нізкі вам паклон!

Паважаныя работнікі сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці!

У дзень вашага прафесійнага свята прыміце сардэчныя віншаванні і падзяку за сапраўды самаахвярную працу на палях, фермах і перапрацоўчых прадпрыемствах, у навуковых установах і абслугоўваючых арганізацыях, на сялянскіх падворках і сацыяльных аб'ектах у вёсцы.

У гэты нялёгкі перыяд, які перажывае наш народ, працаўнікі вёскі добрасумленна і адказна займаюцца сваёй хлебаробскай справай, робяць усё магчымае, каб вырасціць, захаваць, перапрацаваць усё атрыманае ў раслінаводстве, жывёлагадоўлі і іншых аграрных галінах, каб пераадолець спад вытворчасці, вырашыць праблему забеспячэння насельніцтва рэспублікі прадуктамі харчавання.

Урад рабіў і будзе рабіць усё, каб палегчыць становішча сялян, вырашыць тыя складаныя і вельмі цяжкія праблемы, якія ёсць у гэтым важнейшым сектары нашай эканомікі. Веру, што разам мы пераадолеем крызісны стан, забяспечым жыццё, дастойнае нашага працавітага народа.

Жадаю ўсім вам і вашым сем'ям дабрабыту, добрага здароўя і поспехаў на карысць роднай Беларусі.

Нізкі вам паклон!

**В.КЕБІЧ, Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

### О среднемесячной заработной плате рабочих и служащих

Госкомстат Республики Беларусь сообщает, что среднемесячная заработная плата рабочих и служащих в январе — октябре 1993 года составила 41329 рублей и возросла по сравнению с соответствующим периодом прошлого года в 11 раз. В октябре она составила 99879 рублей (в сентябре была 67331 рубль).

**Государственный комитет Республики Беларусь по статистике и анализу**

*Даты*

# Когда в сельском хозяйстве начинаются сенсации, в стране может начаться голод...

## Пессимистические и оптимистические размышления накануне профессионального праздника аграрников (в двух частях)

**Павел СТАСЕВИЧ**

### 1. Вперед, на мины!..

По количеству экспериментов за последнее столетие сельское хозяйство на просторах от Буга до Курил вплотную приблизилось к ядерной физике. Разброс потрясающих "взрывов" впечатляет — от хуторизации до коллективизации, от "обрезания" садов до так называемых комплексов; от повальной мелиорации до неперспективных деревень и т.д. Не буду сегодня глубоко анализировать все нововведения. Отмечу лишь одно: если реформы бывшего гродненского губернатора П.Столыпина давали мужику надежду на землю и волю, то смысл остальных, в принципе, один: "Дави лапотника!"

Последняя пятилетка в этот стиль внесла мало нового. Впечатление даже такое, что количество "взрывов" на селе растет.

Не будем бередить ноющие раны, а сразу глянем на итог. Он в подавляющем большинстве хозяйств (в том числе и фермерских), райагроснабов, перерабатывающих предприятий таков: безденежье, замороженное строительство, счет бензина-солярки на ведра, вынужденный отказ от удобрений — от туков до сопропеля, пуск "под нож" свиноферм, на глазах стареющие технологии и техпарк, аховое положение сельских пенсионеров и т.д.

Если иметь в виду и не забывать, что аграрный сектор Беларуси производит более 30 процентов валового национального продукта, то можно прикинуть, сколько народа поставлено на грань социального взрыва.

Народный депутат Республики Беларусь М.Сукач, директор межхозяйственного предприятия "Стодоличи" Лельчицкого района, например, ситуацию оценивает так:

— Сельское хозяйство уже положено на лопатки. Оно, по сути, рухнуло.

— Неужели все так печально, Михаил Данилович?

— Да. Мы просто трепыхаемся из последних сил и запасов. Разовые подачки государства разрушают село окончательно.

К мнению М.Сукача добавлю и слова Ивана Николаевича Данилевича, директора агрофирмы "Малеч" Березовского района, сказанные на днях с парламентской трибуны. Суть такова: действия государства в ценовой политике по отношению к сельскому хозяйству напоминают диверсию. Даже в этом мощнейшем хозяйстве, сдав выращенную за сезон продукцию, стали в шесть раз беднее. И вопрос стоит уже не о том, чтобы пережить зиму, а как дожить до 1 января.

Вот так "трясет" при нынешнем "паритете" цен ведущие наши хозяйства. Надо ли говорить о слабеньких?

Но кое-кто имеет иную точку зрения, переходящую в очередную сенсацию: село усиленно "кормят" деньгами, а оно все худеет. Значит, пора дорезать...

К вышесказанному нельзя самокритично не добавить и "вечные" сельские грехи: бесхозяйственность, бардачок, "все вокруг колхозное — все вокруг мое" и т.п.

Вот первый — тревожно-драматический — фон, на котором завтра труженики полей и ферм, переработчики сельхозпродукции и т.д. поднимут бокалы-стаканы за себя и свою долю — 21 ноября у них профессиональный праздник.

### 2. Держись, крестьянин!

И все же слухи о скорой кончине аграрного сектора, к счастью, пока оказываются немного преувеличенными: село живет!

И для этого нам, ныне уже городским, не надо рыть статистику и гроссбухи. Просто подойдешь к телефону, наберешь код, номер...

— Как жизнь, мама?..

— Помаленьку, сынок. Купили недавно мешок комбикорма, принесли пенсию...

Дальше пойдет семейное, не для чужого уха. И все же трубку кладешь чуть успокоенный: живет деревня. Пыхтят помаленьку старички; крутится, приторговывая потихоньку с Россией-Польшей после колхозно-совхозного труда, молодежь; доятся коровы, заботливо досматриваются поля-луга.

И при всех нынешних баламутных политико-финансовых передрягах трудно обвинить белорусского крестьянина в нежелании накормить остальной народ.

Несмотря на все парадоксы и сенсации, в текущем году выращен хороший урожай практически всей растениеводческой продукции. На каждого жителя республики произведено более 800 кг зерна, 1100 — картофеля, 80 — овощей, 60 килограммов фруктов.

Особый разговор о хлебе: с гектара собрано по 33,4 центнера зерна. В Министерстве сельского хозяйства и продовольствия называли и ряд хозяйств, где взяли 60-центнеровый рубеж. Это, например, колхозы "Россия" и имени Куйбышева Ивацевичского района, "Ленинский путь" Слуцкого, "Свислочь" Гродненского и "Чырвоны кастрычнік" Чашникского, племзавод "Красная Звезда" Клецкого районов.

По-прежнему держат "марку фирмы" и многие давно известные в республике хозяйства. Например, уверенно чувствует себя на "капитанском мостике" колхоза имени Гастелло Минского района новый председатель П.И.Невестенко, основательностью в делах отличаются руководители и специалисты племзавода "Носовичи" Добрушского и колхоза "Бобовичский" Гомельского районов, колхозов "Октябрь" Гродненского, "Молодая гвардия" и "Заказельский" Дрогичинского, колхоза "Рассвет" Пружанского районов, совхоза "Озерцы" Глубокского и колхоза имени Сильницкого Полоцкого районов и многие другие.

В "штормах" переходного периода умудряются наращивать выпуск продукции и повышать ее качество и многие перерабатывающие предприятия: Слуцкий и Гродненский мясокомбинаты, народное предприятие "Беллакт" г.Волковыска (выпускает детские сухие молочные продукты).

Эти перечисления, основанные на данных Минсельхозпрода, можно в принципе продолжить — людей, умеющих делать дело в полуфронтовой, авральной экономической обстановке, у нас в стране немало. Похвально, что и многие фермеры неплохо подставляют плечо коллективным хозяйствам.

И хоть ныне профессиональные праздники у нас не в почете, думаем, будет совершенно правильным все-таки принародно сказать нашим сельчанам и их помощникам еще одно "спасибо". Не праздника ради, а пользы государства для. Потому что именно они, несмотря ни на что, пока удерживают в Беларуси тот последний "плацдарм", который ни одна уважающая себя держава не сдает.

Будем надеяться, что лучшие времена ожидают и наше село. А для этого сегодня напомним на предупредительной ноте нашим политикам и знатокам-экономистам:

— Осторожнее! Полегче на поворотах!..

Потому что автор этих строк из всей нашей истории "крестьянского вопроса" сделал единственный вывод: если в сельском хозяйстве начинаются сенсации, в стране начинается голод. Так что не стоит нам еще раз нарываться в этом деле на самими же любовно расставленные "мины". И дадим, наконец, возможность белорусскому крестьянину жить своим умом, не "выдаивая" из него последние силы.

И в праздники, и в будни.

*Мы жывём на адной планеце*

## На сусветны кангрэс за прызнаннем

**Дэлегацыя Маладзёжнай палаты Беларусі ў складзе 12 чалавек адправілася у Ганконг, каб прыняць удзел у 48-м сусветным кангрэсе Міжнароднай маладзёжнай палаты.**

"Прысутнасць на гэтым шырока вядомым форуме будзе, па сутнасці, азначаць афіцыйнае прызнанне нашай арганізацыі", — сказаў прэзідэнт Маладзёжнай палаты Беларусі Рыгор Бальдзюсаў.

Членства ў ММП дасць магчымасць маладым беларускім бізнесменам мець надзейных партнёраў для супрацоўніцтва ва ўсім свеце, а таксама ўдзельнічаць ва ўсіх мерапрыемствах, праводзімых пад эгідай Міжнароднай маладзёжнай палаты.

У рамках кангрэсу адбудзецца пасяджэнне Асацыяцыі еўрапейскіх прэзідэнтаў. Якая разгледзіць пытанне аб аказанні дапамогі Маладзёжнай палаце Беларусі.

**Наталля НЕВІДОМАЯ.**

## Амерыканскія ваенныя ў Беларусі

**У Мінску знаходзіцца дэлегацыя ваеннага ведамства ЗША.**

Візіт амерыканскіх ваеных у Беларусь праводзіцца ў адпаведнасці з раней дасягнутымі дагаворанасцямі кіраўніцтва абедзвюх краін. Яго мэта — абмен думкамі па пытаннях ваеннага будаўніцтва і рэфарміравання беларускай арміі.

Амерыканскую дэлегацыю прыняў міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі.

За два дні знаходжання на беларускай зямлі госці з Пентагона наведалі Мінскае вышэйшае ваеннае інжынернае вучылішча, а таксама пабывалі ў размяшчэнні 120-й мотастралковай дывізіі Узброеных Сіл Беларусі.

**Белінфарм.**

## Бізнес без межаў

**22—24 лістапада ў Мінску адбудзецца трэцяя міжнародная канферэнцыя "Малы і сярэдні бізнес у эканоміцы Усходу і Захаду", арганізатарамі якой выступілі Мінскі гарвыканкам, Саюз прадпрымальнікаў рэспублікі, Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў, рэспубліканскі Савет прафсаюза "Садружнасць", асацыяцыя дзелавога супрацоўніцтва "Гарант" і акцыянернае таварыства "Цэнтр — XXI стагоддзе".**

У рамках канферэнцыі пройдуць міжнародная універсальная выстаўка-кірмаш "Усход—Захад—Поўнач—Поўдзень", сустрэча з удзельнікамі XX Сусветнага кангрэсу малога і сярэдняга бізнесу "Шлях у будучы век", наведванне прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу Беларусі.

Для удзелу ў канферэнцыі былі запрошаны прадстаўнікі дзяржаў СНД, дыпламаты і бізнесмены Англіі, Індыі, Ірана, Кітая, ЗША, Карэі, Турцыі, Швейцарыі і іншых краін.

**Аляксандр МАЛЧАНАЎ, БелаПАН.**

*Точка зрения*

# "Пахан" среди "зеков" войны

## Плохо, когда к чистому делу липнут нечистые руки

**Александр ЧЕРЕПКИН,**
**юрист, член ревизионной комиссии Белорусской ассоциации бывших несовершеннолетних узников фашизма, член Витебского областного совета организации**

**Сегодня в Витебске должна состояться областная конференция бывших несовершеннолетних узников фашизма. Не знаю, как она начнется и чем закончится, но задолго до нее мне стало известно, что председатель нашего областного союза Федор Тихонов дал указание приближенным не пускать на сход Владимира Ризо и меня. Хотя мы оба являемся членами совета областной организации, а я к тому же вхожу в ревизионную комиссию Белорусской ассоциации несовершеннолетних узников.**
**Скажете — слухи, которым не стоит верить? Но я верю, и на то есть самые серьезные основания.**

С 18 по 21 октября нынешнего года организационные собрания бывших малолетних заключенных гитлеровских концлагерей и других мест подневольного содержания состоялись в трех районах областного центра и Витебском сельском районе. Причем непреложным условием, которое ставил наш "президент" Тихонов накануне каждого из этих мероприятий, было одно требование: ограничиться только его личным докладом. Никаких дебатов...

В Первомайском районе Витебска собрание голосовало по этому вопросу трижды. Поначалу решили дать слово "шефу", а затем — автору этих строк. Потом пришли к выводу, что надо позволить вкратце выступить, кроме докладчика, всем желающим. Но Тихонова оба результата не устроили, и он добился еще одного голосования, всячески "нажимая" на присутствующих. Получилось! Уставшие спорить люди сдались: ладно, дескать, хватит и начальника...

В Железнодорожном районе, где я, кстати, живу, Тихонову передали записку, авторы которой, 27 человек, требовали пустить меня на трибуну собрания. Тем более что в уставе нашей республиканской ассоциации отмечено мое право, как члена ревизионной комиссии, контролировать работу низовых звеньев. Но Тихонову и устав нипочем. Уломал и это собрание. Никому, кроме него, слова не предоставили. То же повторилось и в последующем.

Чем же вызван страх Федора Петровича перед гласностью, перед братьями и сестрами по несчастью?

Все просто и непристойно. За время существования облсовета в нем сложилась устойчивая группа единомышленников, которая преследует, прямо скажу, личные корыстные цели. Председатель совета Ф.Тихонов, его заместитель Н.Орещенко, члены совета В.Булахов, Н.Скуман, В.Волкова и М.Максименко договорились, что узников фашизма надо бы делить на своего рода "сорта" или "классы". К высшему классу они относят тех, кто был в концлагерях вне пределов СССР, а к низшему — всех остальных, т.е. лиц, страдавших в лагерях смерти на оккупированных гитлеровцами территориях бывшего Союза. Не говоря уже о насильно угнанных в фашистское рабство. И это — несмотря на Закон о ветеранах, которым в 1992 году все эти люди однозначно уравнены.

Считаешь закон неудачным — действуй в правовом режиме. Обращайся к депутатам, к органам, имеющим возможность ставить вопросы перед Верховным Советом. Но Тихонову и его сподвижникам цивилизованные методы не по нутру. Их заботит одна мысль: чем меньше будет узников, тем больше льгот получат "оставшиеся в списке".

Этим и руководствовалась вышеуказанная "инициативная группа", когда незадолго до вступления в силу Закона о ветеранах, который предусматривал надбавку к пенсии с 1 января 1993 года, официально обратилась в Витебский облисполком с предложением исключить из числа льготников бывших заключенных гитлеровских концлагерей на территории Белоруссии и несовершеннолетних рабов фашизма, угнанных в Германию.

Закон Тихонову и К°, понятно, отменить не удалось. Но смущенный его "доносом" облсобес на месяц задержал выплату пенсионной надбавки...

Это может показаться мелочью, если не считать естественных переживаний обнадеженных людей. Кто-то из них, возможно, и не дожил до первой "премии" за растоптанное детство...

Но ведь на этом тихоновская "элита" не успокоилась. Тем более что случай помог. Нашлась в ФРГ благотворительная организация "Максимилиан—Колье—Верк", которая в ноябре 1992 года привезла в Витебск частную гуманитарную помощь для бывших детей-узников. Вещи и деньги распределялись под руководством Тихонова. Приглашенные для получения этого "пособия" люди были встречены заявлением Федора Петровича о том, что закордонные подарки предназначены исключительно для тех, кто был в Освенциме и Майданеке! Остальным — от ворот поворот...

Но и те, кто сподобился попасть в число избранных, обязаны были заплатить за визит к Тихонову по 300 рублей, что год назад было ощутимо для тощего кошелька. Если при себе такой суммы не было, "опричники" Тихонова советовали "сбегать" за деньгами домой или занять тут же у более имущих. Даже инвалидов "отфутболивали"...

Но еще не все. В ведомостях на выдачу гуманитарной помощи обнаружился подлог. В документы были включены люди, которые дойчмарок не получили. Зато обладателями валюты стали знакомые узкого круга членов облсовета. К тому же, собирая по 300 рублей с "облагодетельствованных", сами "благодетели" ни копейки из своих карманов не вынули, а "экспроприированные" средства пустили на банкет по случаю радостного события.

В довершение всего отправители гуманитарной помощи письменно заявили, что не имели понятия о "ведущей роли" Освенцима и Майданека. Свои посылки немцы предназначали всем бывшим юным узникам фашизма, находившимся в местах заключения. В том числе, понятно, и тем, кто голодал и заживо гнил в Озаричах, в "5-м полку" под Крынками и во многих других местах массового уничтожения мирных жителей.

Дело не в помощи. Лучше без нее, если она распределяется нечистыми руками "номенклатурщиков от памяти". Но уж коль находятся люди, готовые ее принять, верящие в искренность дарителей, разве можно позорить корыстной возней эту общественную акцию? До июля 1993 года Тихонов и его окружение не потрудились завести даже приходно-расходную книгу. "Взносы", собранные с бывших узников, уходили бог весть куда. Отчетные бумаги составлялись задним числом, а проверить их некому, потому что ревизионная комиссия областного уровня до сих пор не избрана. Медикаменты, получаемые из-за рубежа, нигде точно не учитываются, а распределяются Тихоновым как он того пожелает.

Казалось бы, одной из важнейших задач облсовета организации является особое внимание к тем, кто тяжело болен, немощен, неустроен в быту. Им бы и надо в первую очередь выдавать гуманитарную помощь, денежные пожертвования. Но за три года официального существования нашего объединения его областное руководство во главе с Ф.Тихоновым не потрудилось даже выяснить, кто из узников детства терпит нужду, опасно слаб здоровьем. Тех же, кто ставит такие вопросы, "диктатор" взывает к совести и справедливости, самовольно устраняет из совета и комиссий, заменяет угодными себе лицами.

Мне больно и неприятно все это писать. Но не вижу иного способа наладить порядок в Витебском облсовете бывших несовершеннолетних узников гитлеровских лагерей, поставить на место человека, который уподобился "пахану" среди затурканных "зеков-малолеток".

*Крымінал*

## Арсенал на даму

У час аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікі аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю ў Мінску і Мінскай вобласці сумесна з віцебскімі калегамі знайшлі ў кватэры і гаражы трох жыхароў Оршы цэлы арсенал агнястрэльнай зброі: 2 кулямёты МГ-42, аўтамат ПКШ, 4 карабіны, 4 гранаты Ф-1, пісталет-ракетніцу, 612 вінтовачных патронаў, 300 патронаў да аўтамата ПКШ, 531 кулямётны патрон у стужках. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа.

## Бензін як прадмет вымагальніцтва

**За апошнія дні ў рэспубліцы адзначана вялікая колькасць выпадкаў вымагання.**

Так, у гомельскім кінатэатры "Кастрычнік" двое непрацуючых грамадзян вымагалі ў рабочага аднаго з мясцовых заводаў 200 тысяч рублёў. У Мазыры ў пад'ездзе дома трое таксама непрацуючых пад пагрозай расправы адабралі ў рабочага 20 тысяч. У Буда Кашалёве чацвёра дармаедаў вымагалі ў вадзіцеля аднаго з мясцовых аўтапрадпрыемстваў 150 літраў бензіну. А ў Мінску была зроблена спроба вымагання трох тысяч долараў у аднаго з мінчан.

Усе вымагальнікі дзякуючы дакладным дзеянням работнікаў міліцыі затрыманы. Супраць іх узбуджаны крымінальныя справы.

**Белінфарм.**

*Ракурс*



Зімовы дзень. У лістападзе.

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**

*Рэпарцёр даведаўся*

## Тут лечаць нетрадыцыйна

**На базе Мінскай гарадской водагразелячэбніцы амаль год ужо працуе цэнтр нетрадыцыйнай медыцыны.**

Заснавалі яго вышэйназваная лячэбніца і фірма "Беларуськурорт". Высокакваліфікаваныя спецыялісты прапануюць вялікі комплекс нетрадыцыйных метадаў дыягностыкі і лячэння розных захворванняў. За даступную плату тут можна атрымаць кансультацыі кардыёлага і анколага, псіхатэрапеўта і гамеапата, прайсці дыягнастычныя даследаванні і лячэбныя працэдуры. Узровень медыцынскага абслугоўвання можна праілюстраваць тым фактам, што прыём хворых вядуць дактары і кандыдаты медыцынскіх навук, урачы 1-й катэгорыі. Сярод тэрапеўтычных сродкаў тут выкарыстоўваюць ірыдадыягностыку (вызначэнне хранічных хвароб па вясёлкавай абалонцы вока), іголкаўколванне, кропкавы масаж, рэфлексатэрапію, лазерную акупунктуру, мануальную тэрапію (лячэнне рукамі), фітатэрапію (лячэнне травамі) і інш.

За час існавання цэнтра паправілі здароўе дзесяткі людзей з парушэннем апорна-рухальнага апарату, неўрозамі, захворваннямі нервовай сістэмы. Дапамагаюць тут пазбавіцца ад некаторых форм цэрэбральнага дзіцячага паралічу.

**Ігар ФЕЛІКСАЎ.**

г.Мінск.

## Шчаслівая лічба — 4?

**4— менавіта на гэтай адзнацы спыніўся курс расійскай валюты да беларускіх "зайцоў" на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы.**

Як і меркавалася, нечаканы для многіх "узлёт" курсу рубля ў пачатку гэтага месяца да 6 пунктаў быў недаўгавечным, і ўжо два тыдні запар ён зноў і зноў вяртаецца на сваё ранейшае месца і стабільна спыняецца на курсе 1:4. Гэта пацвердзілі і праведзеныя апошнія таргі Міжбанкаўскай валютнай біржы, дзе ваганні расійскай валюты да беларускіх безнаяўных разліковых білетаў былі зусім нязначнымі і тысяча расійскіх рублёў прадавалася за 4100 беларускіх. Улічваючы вынікі біржавых таргоў, Нацыянальны банк рэспублікі ўстанавіў новы курс расійскага рубля да беларускага — 1:4,1.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ, Белінфарм.**

## З чым ідуць рачнікі на "зімовыя кватэры"?

**Навігацыя на беларускіх рэках завершана.**

Нялёгкай яна была для рачнікоў рэспублікі. І ўсё ж імі дастаўлена кліентам 8 мільёнаў 850 тысяч тон грузаў пры плане больш чым на мільён меншым. За навігацыю перавезена 330 тысяч пасажыраў, што перавышае планавыя заданні на 70 тысяч чалавек. І ўсё ж гэта намнога менш, чым у папярэднія гады.

**БелаПАН.**

*Усміхнёмся з мастаком?*




Малюнак Алега ПАПОВА.

*Вы просили рассказать*

# Храните деньги в банке. Но в каком?

**В какой банк положить свои сбережения? Трудно ли открыть частную меняльную контору? Когда можно будет свободно купить в Беларуси не только российские рубли, но и латы, карбованцы? На эти и другие вопросы отвечает председатель правления коммерческого банка "Комплекс" Евгений Иванович Кравцов.**

**— Сегодня практически все банки предлагают одинаковые проценты по вкладам граждан. Но кому все же доверить свои кровные или где, например, частному предпринимателю открыть счет?**

— На данный момент белорусские банки можно разделить на три группы: первая — бывшие государственные (Белагропромбанк, Белбизнесбанк, Промстройбанк, Внешэкономбанк), вторая — это те, которые созданы на базе министерств и ведомств. Ни для кого не секрет, что тот же Приорбанк образован на основе госсобственности предприятий Белорусской научно-промышленной ассоциации, "Дукат" — на базе Министерства легкой промышленности, а "Беларусь" — Министерства торговли и коммунального хозяйства. И третья группа — банки, начавшие свою работу с нуля ("Комплекс", "Северо-Запад", "Белорусский народный банк"). Что может дать эта информация? Прежде всего следует учитывать: если учредители — крупные предприятия, то банки должны в первую очередь кредитовать их, оказывать им массу финансовых услуг. И еще, если, допустим, дела начнут плохо идти в легкой промышленности или электронной, то в незавидное положение попадут и их банки.

Далее. Если банковская деятельность начиналась с нуля, то нужно смотреть, как она развивается. К примеру, денежный оборот "Комплекса" за минувший год вырос в 15,5 раза, а в нынешнем, видимо, увеличится почти в 50 раз. Кстати, многие сегодня ошибочно оценивают эффективность работы коммерческой структуры по размеру уставного фонда. Ведь он показывает только то, с чем фирма или банк начинали свою деятельность. Скорее всего, нужно учитывать собственные деньги того же банка, которые включают в себя и оплаченные акции, и фонды, и прибыль.

И еще одно наблюдение из практики. Если банк распространяет свои акции только среди учредителей, то это говорит о том, что у него хватает собственных средств для развития. А когда он вынужден рекламировать подписку на свои ценные бумаги, тогда, скорее всего, у него возможны проблемы с финансами.

Конечно, нужно обращать внимание и на такие показатели, как рентабельность, межбанковские займы, но лучше всего обратиться к грамотным и опытным специалистам при выборе "своего банка".

**— Какие услуги на сегодня оказывает "Комплекс"?**

— Мы активно работаем с гражданами в плане купли-продажи валюты. По нашим данным, каждый четвертый доллар в банковской системе продается и покупается в Минске через обменные пункты "Комплекса". Открыли также немало ломбардов. До конца года планируем расширить перечень услуг гражданам.

**— Когда можно будет у вас свободно обменять "зайчики" на те же литы, карбованцы?**

— Сегодня уже продаем и покупаем российские рубли. Решается проблема и с остальными так называемыми мягкими валютами. К их обмену планируем приступить в самое ближайшее время.

**— Сейчас разрешено открывать частные меняльные конторы...**

— Да. Но следует учитывать, что это не такой простой хлеб, как может вначале показаться. Необходима ведь система инкассации, придется вести ежедневный учет по нормативным документам Национального банка. Да что говорить, чтобы продать один доллар, нужно заполнить 6 документов!

**— Если вслед за Россией в Беларуси будет прекращено хождение валюты как второго платежного средства, отразится ли это на банках?**

— Банки не очень ощутят на себе действие этого закона, если он и будет принят у нас в республике. Мы ведь для того и существуем, чтобы у человека не было проблем с обменом денег.

*Тэатры*

**20—22 лістапада**
**Пачатак у 19.00**

**ТЭАТР ОПЕРЫ І БАЛЕТА**

20 лістапада — **"Між шумнага балю"**. Вечар рамансаў П.І.Чайкоўскага.

21 лістапада ў 11.30 — **"Трое парасят"**, вечарам — **"Спартак"**.

**У сувязі з ад'ездам аркестра тэатра за мяжу балетныя спектаклі да канца лістапада будуць ісці пад фанаграму.**

**ТЭАТР ІМЯ Я.КУПАЛЫ**

20 лістапада — прэм'ера **"Саўдзельнікі"**, на малой сцэне ў 19.30 — прэм'ера **"Віват, імператар!"**.

21 лістапада ў 11.30 — **"Пунсовая кветачка"**, вечарам — **"Ажаніцца — не журыцца"**;

на малой сцэне ў 19.30 — прэм'ера **"Віват, імператар!"**.

22 лістапада — **"Нежанаты мнагажэнец"**.

**Папярэдні заказ білетаў па тэл. 27-17-17.**

**БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІЯ**

**(канцэртная зала)**

20 лістапада — **XX міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень"**. Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Рэспублікі Беларусь. Дырыжор — **М.Казінец**. Саліст — **М.Пятроў** (фартэпіяна). У.Дарохін — Сімфонія N 3, С.Рахманінаў — Канцэрт N 3 для фартэпіяна з аркестрам.

21 лістапада ў 15.00 — **XX міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень"**. Канцэрт фартэпіяннай музыкі. **М.Пятроў**. У праграме: Шуман, Пракоф'еў, Мусаргскі.

22 лістапада — **XX міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень"**. "Фантазіі вялікіх скрыпачоў на тэмы вядомых опер". **Ю.Брагінскі** (скрыпка, Бельгія). Партыя фартэпіяна — **А.Шэлудзякоў** (Масква);

**(зала камернай музыкі)**

22 лістапада — **XX міжнародны фестываль мастацтваў "Беларуская музычная восень"**. Квінтэт духавых інструментаў Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Чукурава (Турцыя). У праграме: Бетховен, Хіндэміт.

*А вот у нас был случай...*

**Напоминаем, уважаемые читатели, что 30 октября в "Народной газете" состоялась премьера субботней рубрики "А вот у нас был случай..." О чем она? Да о том, о чем вы рассказываете друг другу в купе поезда и палате дома отдыха, за дружеским застольем и на лавочке у крыльца, в бане и пивной — о нас с вами...**

**Напоминаем также, что мы в редакции не требуем документальных подтверждений рассказываемых вами историй, хотя если таковые предъявляются, то охотно берем их во внимание. А если желаете выступить под псевдонимом — не возражаем. И коль бывает нужна помощь в литературном изложении — оказываем. Главное, чтобы истории эти наряду с краткостью отличались предельной занимательностью, а, возможно, даже и поучительностью.**

**Итак — очередная порция сюжетов...**



## Пуговица Машерова

В один из дней лета 1979 года я нес службу на пятом этаже здания ЦК КПБ возле кабинета П.М.Машерова. Где-то около 18 часов дверь первого секретаря распахнулась и появился Петр Миронович. Он прошел в так называемый старый зал заседаний бюро ЦК КПБ. Заседание бюро окончилось с час назад, и что Машерову понадобилось там, было неизвестно.

Дверь в зал оставалась приоткрытой. Минут пять я раздумывал, а затем решился заглянуть внутрь.

Петр Миронович стоял на коленях и что-то искал под столом председательствующего. Я наблюдал за ним, боясь помешать. Вдруг, интуитивно почувствовав присутствие в зале еще кого-то, Машеров глянул на меня.

— Подойдите ближе и помогите, — несколько смущенным голосом произнес Петр Миронович. — Оторвалась пуговица от пиджака, а запасной нет. Менять весь костюм не хочу, привык к этому.

Вдвоем мы начали шарить под столом. За коленки беспокойства не было — пол устилал прекрасный ковер. Наконец Машеров встал, отряхнулся и, сказав, что ему нужно срочно уехать, попросил продолжить поиски.

Приподняв стол, я обнаружил пуговицу в углублении под его массивной опорой. Находку отнес в кабинет заведующего общим отделом ЦК В.Я.Крюкова и положил ее на стол. Объяснил, что Петр Миронович беспокоился о пропаже...

Немедленно была вызвана автомашина. Пуговицу увезли на дачу Машерова в Дрозды.

Через некоторое время я вновь дежурил на пятом этаже здания ЦК. Снизу позвонили, что в лифте поднимается Машеров. Отомкнув дверь кабинета первого секретаря, я стал ждать. Петр Миронович узнал меня, пожурил за "превышение полномочий", а затем пригласил в кабинет и подарил первое, что попалось под руку, — альбом "Минск — город-герой". Правда, без каких-либо памятных надписей. Я посмотрел на пиджак Машерова. Все пуговицы были на месте.

**Анатолий СУПРАНОВИЧ, инженер завода средств комплексной автоматизации, бывший сержант 1-го взвода ведомственного полка милиции по охране советских и партийных органов.**

*г.Минск.*

## "Сенька, дай святой воды..."

Расскажу, отчего в юности я получил в нашей деревне необычное прозвище — Сенька Дай Святой Воды.

В канун праздника Крещения Господня, когда в храмах на вечерней службе освящают воду, дедушка послал меня, четырнадцатилетнего подростка, в церковь, что была в соседнем селе. С собой дал пустую пол-литровую бутылку. Путь был длиной километров в пять, но на самодельных коньках по обледенелой дороге я его одолел быстро, благо ветер дул в спину.

Отстоял службу, наполнил святой водой бутылку и вышел на улицу. А там разгулялась метель. Снег и ветер в лицо, дорогу заметает, коньки теперь без пользы. Бреду в темноте сквозь голое поле, и, на счастье, догоняют меня пароконные сани. Незнакомый дядька кричит:

— Садись, хлопец, а то пропадешь!

Я зарылся в сено, а настывшую бутылку со святой водой, которая прямо-таки жгла за пазухой, сунул рядом. Спустя время возница ссадил меня возле нашей хаты и отправился своей дорогой дальше.

Бутылку я закоченевшими руками поставил на стол, а сам залез на печь отогреваться. Слышу, дедушка взял емкость и вроде как удивленно бормочет:

— С чего бы это батюшка святую воду стал сургучом запечатывать?

Достал ножик, выковырнул пробку, глотнул из бутылки да и поперхнулся. А потом стащил меня с печи — и за ухо, за ухо!

— Я тебя в храм божий посылал или в шинок? Ты откуда водку принес?

— Из храма божьего...

— Врешь, нечестивец!

...Все прояснилось позже. Оказывается, мой случайный дорожный благодетель вез под сеном казенную водку, которую немалым числом закупил на свадьбу. Вот туда-то к ней я и сунул свою святую воду.

... Несколько лет еще потом мужики и парни из нашей деревни в канун Крещения предлагали мне сходить для них за святой водой.

**Бывший Сенька Дай Святой Воды, а ныне пенсионер С.Т.ПУЧОК.**

*г.Лида.*

## Кошмар свинячий

...Убивать надо тех, кто придумывает и печатает в газетах и журналах всякую ерунду под рубрикой "Полезные советы". Один такой "совет" стоил мне и моему соседу седых волос.

Как-то вечером раздается звонок в дверь. Стоит сосед — весь белый, губы трясутся.

— Там... Там в холодильнике моя Галя...

Рванулся я в его квартиру, открываю холодильник, и... все поплыло перед глазами. Лежит отрубленная женская нога в чулке, торчит кость, свисают ошметья мяса. Ясно: пока сосед был на работе, в дом пробрался маньяк, изрубил жену и засунул в холодильник.

Вызвали милицию. Но едва члены опергруппы ступили в прихожую, как за их спинами показалась... Галя. Живая и здоровая.

— Ну, милый, чего я сегодня купила!.. Ой, а зачем у нас милиция?

Милиционеры сначала дружно ругались, а потом так же дружно хохотали. Оказывается, жена соседа накануне где-то прочитала "полезный совет" о том, что новые колготки перед ноской нужно подержать в расправленном виде на холоде. От такой процедуры они впоследствии якобы меньше изнашиваются. И ничего лучше наша затейница не придумала, как использовать в качестве "болванки" для натяжки свежий свинячий окорок...

В соседней квартире теперь под запретом всякая читка газет и журналов.

**М., рабочий комбината хлебопродуктов.**

*г.Брест.*

***Благодарим читателей "Народной газеты", успевших выступить у нас, а также тех, чьи новеллы пока еще готовятся к печати. Смотр сюжетов продолжается. На почтовом конверте просьба делать пометку "А вот у нас был случай...".***

**Ведущий рубрики Сергей КРАПИВИН.**

